*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 11(45). Лістапад

# Баскетбалісты каманды "Слонім"

У канцы 1950-х у нашым горадзе з'явілася моцная баскетбольная каманда "Слонім". Гулялі ў ёй школьнікі. На здымку 1959-1961 гадоў — баскетбалісты-вучні СШ № 5 Аляксандр Мельнік, Сулейман Байрашэўскі, Аляксандр Бухвостаў, Аляксандр Хварасціна (ці Хварасцін). Фота даслаў чытач "СК" мінчук Аляксандр Іванавіч Бухвостаў. З 1961-га, пасля Хварасціны, ён быў капітанам "Слоніма".*

*"У гэты перыяд школьнікі Слоніма абыгрывалі ў баскетбол зборную Гродна"*, — успамінае Бухвостаў. Яшчэ адзін чытач "СК" Сулейман Мацвеевіч Байрашэўскі дадае, што пераможная *"тульня паміж Слонімам і Гродна праходзіла ў спартовай зале медвучэльні"*. Ён прыгадвае, што баскетбольная каманда СШ № 5 прадстаўляла Гродзенскую вобласць у першынстве рэспублікі сярод школьнікаў.

Байрашэўскі назваў трэнера каманды — Казіміра Генрыхавіча Бачкоўскага. Акрамя названых гульцоў, ён прыгадаў таксама Уладзіміра Куніцу, Мікалая Кісяля, Вячаслава Сяменіка, Бязверхава і Міхальчыка.

У "СК" публікавалася архіўнае фота баскетбольнага паядынку камандаў СШ № 1 і СШ № 5, які адбыўся 19 траўня 1959 года.** Аляксандр Бухвостаў мяркуе, што на ім можа быць хтосьці з той моцнай дружыны, зборнай Слоніма, якая выступала нават на рэспубліканскім узроўні.

●Сяргей Ёрш

**Пра гэта згадвалася і ў даўняй публікацыі "СК": Бухвостаў А. Іван Бухвостаў — дырэктар Рышчыцкай МТС // Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 14.*

***[Ёрш С.]. Слонімскія баскетбалісты, 1959 год // Слонімскі край, 2019, № 9(43). Верасень. С. 20.*

# Сінагозе трэба пратрымацца да вясны 2020-га



Па выніках сустрэчы слонімскага кіраўніцтва і прадстаўнікоў яўрэйскіх дабрачынных арганізацый стала вядома, што вясной наступнага года пачнецца кансервацыя галоўнай сінагогі, помніка архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя. А пакуль спецыялісты працягваюць свае даследаванні, высвятляюць стан сцен і даху будынка.

# Перапіс на Слонімшчыне

У лістападзе былі агучаны папярэднія вынікі перапісу насельніцтва на Слонімшчыне. Як інфармуе "Слонімскі веснік", у горадзе налічваецца 49 300 жыхароў. Прыблізна на такім узроўні насельніцтва Слоніма захоўваецца ўжо не першы год. Цікава, што некаторыя слонімцы пішуць у сацсетках, што іх так і не наведалі перапісчыкі. Што да Слонімскага раёна, то ў ім налічылі 14 400 жыхароў.

На Слонімшчыне — 147 населеных пунктаў, налічваеццца 17 аграгарадкоў і 10 сельсаветаў.




ХРОНІКА

# Альбом знакамітага земляка



sb.by

У пачатку лістапада ў Мінску адбылася прэзентацыя альбома нашага земляка, народнага мастака Беларусі, скульптара Івана Якімавіча Міско. Выданне, якое выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", ахапіла галоўныя творчыя набыткі майстра.

●Генадзь Гурскі

# Іван Ціхан



Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі — пра слонімскага спартсмена 43-гадовага Івана Ціхана: *"На калені трэба стаць і схіляцца.* [На Алімпіядзе ў Рыа] *ён стаў другім пасля найвялікшага ў гэтым відзе спорту* [у кіданні молата] *паляка. Той наогул унікум. І цяпер* [Ціхан] *кажа: я паеду на Алімпіяду і буду да гэтага індывідуальна рыхтавацца. Ну як можна не захапляцца такімі людзьмі?".*

# Слонім і Агінскі

6 лістапада ў Слоніме па вуліцы Васі Крайняга (гістарычныя назвы — Спаская, Бернардынская, Банкавая) урачыста, у прысутнасці кіраўніцтва горада, адкрылі помнік дзяржаўнаму дзеячу ВКЛ і Рэчы Паспалітай Міхалу Казіміру Агінскаму. На свае сродкі яго вырабіла прыватная фірма “Гранві” Уладзіміра Вількіцкага, ініцыятар — грамадскае аб’яднанне “СлонімКаналАгінскага” (кіраўнік — Іван Вадэйка). Надпіс на помніку выкананы па-беларуску: *“Міхал Казімір Агінскі (1728 — 1800), стараста слонімскі, кампазітар, паэт, мецэнат”.*






Слонімскі веснік

У публікацыях пра Агінскага згадваюцца дзве даты яго нараджэння — 1728 і 1730 гады. Ініцыятары ўсталявання помніка слушна выбралі першую, бо якраз яе выкарыстоўвае даследчык жыцця і дзейнасці Міхала Казіміра Анджэй Цеханавецкі.*

Слонімскую эканомію Міхал Казімір Агінскі атрымаў у 1761-м пасля шлюбу з удавой падканцлера ВКЛ Антона Міхала Сапегі Аляксандрай Сапега (Чартарыскай). Аднак наш горад стаў яго сталай рэзідэнцыяй толькі ў 1770-я. Цеханавецкі падкрэслівае, што *“Агінскі пераняў даўно абжыты маёнтак, які ўнёс ужо пэўны ўклад у культуру, а не зусім пустое месца”.***

Што зрабіў стараста Агінскі для Слоніма? На яго загад у горадзе рамантаваліся вуліцы, масты, будаваліся дамы (захавалася былая аўстэрыя на цяперашняй Савецкай вуліцы), мануфактуры, існавала друкарня, адно з рэчышчаў Шчары стала каналам (Малым каналам Агінскага). Быў рэканструяваны палац Сапегаў на “Замчышчы”. Гэта быў аднапавярховы будынак у форме падковы, які меў 46 пакояў (інфармацыя пра 116 пакояў памылковая).*** Міхал Казімір Агінскі стварыў у цэнтры Слоніма палацава-паркавы комплекс, які мы цяпер бачым толькі на плане горада канца XVIII стагоддзя.

А яшчэ пры Агінскім у Слоніме з’явіўся першы на беларускіх землях кафенгаўз — бар-рэстаран еўрапейскага ўзроўню. Ён знаходзіўся на ніжняй частцы цяперашняй Першамайскай вуліцы. Цікавае апісанне гэтай установы з’явілася ў апошнім нумары

*Працяг на ст. 4.*

# Слонім і Агінскі

Працяг, пачатак на ст. 3.

часопіса “Наша гісторыя”.****

Галоўная заслуга слонімскага старасты — адкрыццё славутага опернага тэатра. Спачатку тэатральныя пастаноўкі адбываліся ў танцавальнай зале палаца, оперны тэатр быў узведзены ў канцы 1770-х — у пачатку 1780-х гадоў. Яго будынак не захаваўся, цяпер на тым месцы гарадскі парк і Оперная вуліца. Пры тэатры існавалі музычная і балетная школы, капэла.

Навошта гэта ўсё было Міхалу Казіміру Агінскаму? Ён быў творчым чалавекам — пісаў вершы, спрабаваў сябе ў якасці кампазітара. Безумоўна, яму імпанавала слава пра “паўночныя Афіны” і іх уладальніка — пра Слонім гаварылі ва ўсёй Рэчы Паспалітай ды і за яе межамі. І калі краіна была падзелена суседзямі, а беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, дзякуючы гэтай славе наш горад на кароткі час стаў цэнтрам губерні.*****

На жаль, росквіт Слоніма быў нядоўгім. Гэта яшчэ адно сведчанне пра ролю асобы ў гісторыі. Спачатку быў стараста Леў Сапега, які адбудоўваў горад, укладаў немалыя свае сродкі. Пасля прыйшоў стараста Міхал Казімір Агінскі, які таксама не шкадаваў грошай, у тым ліку і на культуру. Абодва яны займалі найважнейшыя дзяржаўныя пасады ў ВКЛ, дбалі пра дабрабыт краіны і не забывалі пра невялікі, старажытны Слонім. Так сталася, што помнікі знакамітым дзеячам з’явіліся ў нашым горадзе ў адзін год.



*Фрагмент плана Слоніма канца XVIII ст. На ім — палац Агінскага і оперны тэатр*

●Генадзь Гурскі

**Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. — Мінск, 2006. С. 42. Праўда, няўважлівыя рэдактары і выдаўцы дапусцілі з’яўленне ў кнізе і іншай даты — 1730 года.*

***Тамсама. С. 78.*

****Тамсама. С. 79.*

*****Сурскі Я. Што налівалі ў першым беларускім бары? // Наша гісторыя, 2019, № 11(16). Лістапад. С. 80-82.*

******Ёрш С. Расійская імператрыца Кацярына II і палац Агінскага ў Слоніме // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 1,3.*

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак у № 10, 2019*

Кандыдат гістарычных навук, археолаг Эдвард Зайкоўскі піша прапаклонныякамянінаступнае: *“Своеасаблівая эстэтызацыя камянёў адчуваецца ў ансамблі, які захаваўся каля вёскі Горка Дзятлаўскага раёна. У XIX стагоддзі паведамлялася аб глыбокай пашане ў гэтай мясцовасці групе з некалькіх вялікіх камянёў. Пагорак, ад якога, верагодна, атрымала сваю назву вёска, бачны на ўскраіне лесу. На яго вяршыні ў даўнія часы стаяла капліца. Ніжэй па схіле, на невялікай пляцоўцы, — маляўнічае нагрувашчванне з пяці велізарных камянёў (вышынёй у 2-3 метра). У цэнтры пад імі маецца даволі шырокі праход вышынёй каля метра. Згодна з паданнем, калісьці праз яго можна было праехаць на кані, але з таго часу камяні нібыта глыбей апусціліся ў зямлю. На гэтых глыбах стаяў драўляны крыж, абчэплены вянкамі і вышытымі ручнікамі. Каля камянёў маліліся, клалі грошы і іншыя ахвяраванні”.*[1]

У 1818 годзе ўладальнікам вёскі Горка памешчыкам Стэфанам Незабытоўскім была пабудавана драўляная царква і пачала дзейнічаць царкоўна-прыходская школа. А ў канцы XIX — у пачатку XX стагоддзя пабудавалі цагляную царкву св. Георгія.

“Паклонныя камяні” з‘яўляюцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю Рэспублікі Беларусь XI-XII стагоддзяў. З пакалення ў пакаленне мясцовымі жыхарамі перадаецца, што калі прапаўзці пад валунамі тройчы, то пазбавішся ад любых хвароб. Сёння людзі з усіх куткоў Беларусі едуць у Горку на паклон камяням з глыбокай верай і надзеяй на выздараўленне. Паспрабуйце і вы. Кажуць, што дапамагае тым, хто прыходзіць з верай.

Назва вёскі Студзераўшчына магчыма ўказвае нам і на тое, што там таксама знаходзілася старажытнае свяцілішча ці капішча, дзе язычнікі пакланяліся багам. Назва ўтварылася ад тапоніма “студ”. У індаеўрапейскіх мовах гэты корань азначаў — “ідал, слуп, калона”.

Беларускі археолаг і фалькларыст Міхал Федароўскі падчас археалагічных раскопак у 1880-я гады выявіў, што на месцы вёскі Студзераўшчына ў старажытным мінулым была першабытная стаянка, бо там траплялася шмат прадметаў крэмневай зброі, рэштак глінянага посуду і г. д.

Сёння мясцовыя жыхары ўжо не памятаюць, адкуль пайшла назва вёскі Вішава. Самай папулярнай з’яўляецца версія пра вішнёвыя сады.

Але Федароўскі ў сваёй працы “Люд беларускі” піша,



*Міхал Федароўскі*



WYDAWNICTWO KOMISYI ANTROPOLOGICZNEJ

LUD BIAŁORUSKI

NA RUSI LITEWSKIEJ.

TOM III

CZĘŚĆ II.

W KRAKOWIE.

што назва вёскі Вішава паходзіць ад высокіх курганоў, якія размешчаны за панскім маёнткам Гнаінскіх уздоўж лесу. Згодна з народным паданнем, там было пахаванне часоў шведскай вайны, дзе хавалі ваяроў-асілкаў непамернай сілы. Тапонім “Вышаў” утварыўся ад слоў “высокі, вышэй”.[2]

Старыя людзі казалі, што ў даўнія часы, нібыта яшчэ падчас шведскай вайны, недалёка ад вёскі была раўніна, на якой ішоў страшны бой, у якім загінула мноства воінаў, а тыя, хто выжыў, пахавалі там сваіх загінулых сяброў, шапкамі панасіўшы на іх магілу пяску. Так і ўзнікла гара.

Шмат паданняў пра камяні расказалі Міхалу Федароўскаму мясцовыя жыхары. Вось адно з іх: *“Калісьці на Вялікдзень адзін гаспадар сказаў: “Пайду гараць, цікава, ці многа я гэтым Вялікім днём згараю?”. Так запрог у саху вала і пайшоў на вялікую гару гараць і ў першай зараз баразне скамянеў з валамі, сахою і пугаю. Так да сёньняшняга дня*

*Працяг на ст.6*

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак на ст.5*

*тыя камяні ляжаць, але за доўгім часам яны ўпалі крыху ў зямлю”.*

Пра тое, што М. Федароўскі праводзіў археалагічныя раскопкі з Канстанцінам Гнаінскім у яго маёнтку Вішава, пісаў у 1895 годзе археолаг Ф. Пакроўскі ў навукова-краязнаўчай працы “Археалагічная карта Гродзенскай губерні”: “Каля маёнтка Вішава, на зямлі памешчыка Гнаінскага, знаходзіцца шэсць кurганоў. Размешчаны яны, відаць, у два рады (4 і 2) па паўночным схіле пагорка, які служыў яшчэ ў нядаўні час могілкамі. Сярэдняя вышыня курганоў ад 2 да 3 метраў. Больш за 40 гадоў таму адзін з курганоў быў раскапаны ўладальнікам маёнтка Канстанцінам Гнаінскім, пры гэтым знойдзена было некалькі бронзавых кольцаў і бляшак. У 1881 г. адзін курган быў раскапаны нейкім Федароўскім. У гэтым кургане, у верхніх пластах, знойдзены былі чарапкі глінянага посуду, дробныя вуглі і косткі нейкага звярка; на паверхні грунта апынуўся шкілет, звернуты галавой на з[ахад], рукі працягнуты ў бакі ад корпуса. Каля правай рукі ляжаў аскепак крэменю, у выглядзе ножыка, і частка добра адшліфаванай крэмневай сякеркі. Каля левай рукі змяшчалася гліняная пасудзіна. Чэрап шкілета належаў да тыпу доліхацэфальных”.[3]

### За Вішавам жылі Завішы

Вёска Горка належыла шляхецкаму роду Завішаў-Кезгайлаў, якія займалі высокія пасады ў ВКЛ і пасяліліся на Слонімшчыне ў XV стагоддзі.

Маршалак вялікі літоўскі Мікалай Кезгайла (каля 1451 — 1512) пасля смерці свайго бацькі атрымаў некалькі населеных пунктаў у цяперашнім Дзятлаўскім раёне. Мястэчка Дварэц з драўляным касцёлам, цэрквамі дасталіся цівуну віленскаму Андрэю Завішу (1450 — 1534), калі ён ажаніўся з яго дачкой Барбарай Кезгайлаўнай. Беларускі род Завішаў, цесна звязаны з Валовічамі, Тышкевічамі і Агінскімі, даў ВКЛ нямала адважных ваяроў і разумных дыпламатаў.



*Андрэй Казімір Завіша*



*Аляксандра Завіша (Агінская)*

Андрэй Казімір Завіша (каля 1614 — 1678) — дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, пісар вялікі літоўскі, староста мінскі, чачэрскі і слонімскі ахвяраваў сродкі на будаўніцтва касцёла ў вёсцы Раготна, пабудаваным у 1673-м. Каля 1645 года ён узяў шлюб з Аляксандрай, дачкой Аляксандра Агінскага, а 20 красавіка 1660 года ў весцы Горка ў Слонімскім павеце ў сям’і нарадзіўся сын Крыштаф Станіслаў Завіша — дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісьменнік, які ў канцы жыцця напісаў мемуары, выдадзеныя ў Варшаве праз 200 гадоў пад рэдакцыяй гісторыка Юліяна Барташэвіча. Крыштаф Станіслаў Завіша браў актыўны ўдзел у палітычным жыцці: некалькі разоў абіраўся дэпутатам на соймы. У сваіх мемуарах акрамя заморскіх краін Крыштаф Завіша згадвае родныя мясціны і навакольныя вёскі: Стараельню, Вензавец, Наваельню, Раготна, Моўчадзь, Горку, Лапушна і іншыя: “У Жыровічах імшу святую слухаў”, “пад Горкай забілі мядзведзя”, “пад Лапушнай зноў забілі мядзведзя, які моцна пакалечыў”, “з маршалкам Гродзенскім Масальскім палявалі тры дні каля Старыны, балявалі тры дні ў Раготне”. Падарожнічаючы па Еўропе і сумуючы па роднай зямлі, Крыштаф Завіша параўноўваў вёску Дварэц з Італіяй, Раготна — з Парыжам, бо там “балявалі на французскі манер”, Дзятлава — з Венецыяй, бо “людзі былі вельмі вясёлыя, а віно і мёд лілося ў багацці”, а Горку — са Швейцарыяй, бо маляўнічая прырода і высокія горы нагадвалі яму малую радзіму на Слонімшчыне.[4]

У Раготнеўскім касцёле, пабудаваным Андрэем Казімірам Завішам, 4 снежня

1710 года вазьме шлюб яго ўнучка Барбара Францішка Завіша (1690 — 1746) з ваяводам Навагародскім Мікалаем Фаўстынам Радзівілам, у сям'і якіх народзіцца 15 дзяцей.

Род Завішаў згадваецца на Слонімшчыне і ў XIX стагоддзі: 24-гадовы Іван, сын павятовага суддзі Івана Аляксандравіча Завішы, прымаў удзел у паўстанні 1863 года, а 28 лютага было распачата следства і *"за наговор крестьян вступать в шайку мятежников"* Іван Завіша быў адпраўлены на катаргу з пазбаўленнем усіх правоў.[5]

Ад Завішаў вёска Горка перайшла да роду Незабытоўскіх, якія гаспадарылі там да 1939 года. У XVIII стагоддзя маёнтак Горка належаў памешчыку Сцяпану Незабытоўскаму, а ад яго перайшоў па спадчыне да сына, адстаўнога паручыка расійскіх войск, Адольфа Незабытоўскага, а той перадаў сваім сынам — Каліксту і Гераніму. За ўдзел у паўстанні 1830-1831 гадоў Гродзенская палата дзяржаўных маёмасцяў распачала справу *"О введении в казну частного имения Горки Слонимского уезда мятежников Каликста и Геронима Незабытовских"*. Калікст і Геранім вымушаны былі пакінуць радзіму і паехаць за мяжу. Бацька распачаў цяжбу за маёнтак і, дзякуючы яму, яго частку ўдалося захаваць у сям'і. У 1833-м па дадзеных Казённай палаты і алфавітных кнігах 8-га народнага перапісу ў склад маёнтка Горка ўваходзілі вёскі Зарэчча (57 мужчынскіх душ), Задвор'е (23 мужчынскія душы), Даўгялавічы (11 мужчынскіх душ). Усяго ў маёнтку ў 1833 годзе налічваліся 102 мужчынскія душы прыгонных сялян і 11 вольных людзей. Складзены ў 1847 годзе інвентар канфіскаванага маёнтка Горка паведамляе нам, што ў казну была выдзелена вёска Зарэчча, якая рамяшчалася ад губернскага горада Гродна на адлегласці 134 вёрст, 25 вёрст ад Слоніма, 6 вёрст ад паштовай дарогі са Слоніма ў Гродна і Вільню. На канфіскаваных землях працякала невялікая рачулка Плехаўка, на якой быў пабудаваны драўляны вадзяны мукамольны млын з фолюшам, ці сукнавальняю. З гаспадарчых пабудоў меўся драўляны хлеў для сена і хата для стражніка. Зямлі налічвалася 875 дзесяцін, мужчын працаздольных у вёсцы на той час было 59 душ, жанчын — 40.[6]

●Святлана Брайчук

Працяг у наступным нумары


*[1] Зайковский Э. О чём говорят камни… // Деды, 2012, № 9.*

*[2] Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materyały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877-1893 . T. 3: Baśnie, przypowieści i podania ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki. — Kraków: Akademia Umiejętności, 1903. S.23.*

*[3] Покровский Ф. Археологическая карта Гродненской губернии. — Вильна, 1895. С. 21.*

*[4] Bartoszewicz J. Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego, 1666-1721. — Warszawa, 1862. S. 5, 35-51.*

*[5] Нацыянальны дзяржаўны архіў Беларусі ў г. Гродна, ф. 1713, воп. 1, спр. 1.*

*[6] Тамсама, ф. 1, воп. 2, спр. 308.*


СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Разбураны чыгуначны мост



Узарваны ў Слоніме падчас Першай сусветнай вайны чыгуначны мост шмат здымалі нямецкія вайскоўцы. Ён трапіў на некалькі паштовак. Гэты здымак нядаўна з'явіўся на сайце allegro.pl. Ён зроблены з нязвыклага ракурсу. За ім бачым Замосце з касцёлам св. Андрэя. Змяшчаем фрагмент гэтага фота.

●Генадзь Гурскі

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач



*Менск, 1925 г. / З сацсетак Антона Астаповіча*

*Працяг, пачатак у № 8-10, 2019*

Што асабліва натхняла, — у лісце былі названы рэальныя імёны агентаў, былых савінкаўцаў. Ад імя Грача была складзена новая папера. Маральная, а галоўнае, матэрыяльная падтрымка была абяцана пры ўмове, калі кур'еру перададуць дакументы з інфармацыяй пра: 1) супрацоўніцтва “ЗД” з “двуйкай”; 2) другі аддзел, яго склад, арганізацыю і сувязі; 3) дзейнасць генерала Булак-Балаховіча па фарміраванню дыверсійных банд для налёту на савецкую тэрыторыю і час запланаваных аперацый; 4) іншых, каму даручана яшчэ арганізацыя падобных частак; 5) агентаў “двуйкі”, якія будуць займацца гэтай справай; 6) адносіны паміж Беларускім пасольскім клубам, іншымі беларускімі арганізацыямі і польскай выведкай, паліцыяй; 7) магчымасці “ўліць” сваіх людзей у дыверсійныя атрады. Для эфектыўнай сувязі Грач раіў падабраць 2-х надзейных людзей і карыстацца пераходам на участку мяжы Койданава — Радашковічы. На памежным пасту трэба было прасіць сустрэчы з Грачом і паказваць пропуск Дзергача.

Яшчэ ў першым лісце быў пазначаны адрас Дзергача ў Вільні. На гэты раз, як высвятляецца, вельмі дасведчаны савецкі разведчык Станіслаў (так звалі пасярэдніка), адчуваючы небяспеку, сам не зайшоў у кватэру. Сустрэўшы дзесяцігадовую дзяўчынку, ён даў ёй грошы на марожанае і, назваўшы патрэбны адрас, папрасіў занесці паперку дзядзьку Арнольду (так звалі гаспадара кватэры). На словах яна мусіла перадаць, што дядзька Стась заўшоў у краму і хутка прыйдзе сам. Схаваўшыся за дрэвам у супрацілеглым ад крамы баку, кур'ер пабачыў, што разам з дзяўчынкай выбеглі маладыя людзі і кінуліся ў краму. У іх намерах памыліцца было немагчыма. Відавочна, аблава! Пачакаўшы тры дні на тайнай кватэры, пакуль паліцыя перастала шукаць савецкага шпіёна, Стась выбраўся з Вільні. Гульня скончылася.

Упартыя працяглыя допыты Грача, намаганні кіраўнікоў ДПУ Беларусі Генкіна, Ольскага далі патрэбныя вынікі. Ксяневіч прызнаўся, што аперацыя рыхтавалася па ініцыятыве і пад наглядам “двуйкі”, якая імкнулася здабыць доказы арганізацыі антыпольскай партызанкі з БССР. Каб апеляваць да міжнародных арганізацый неабходны былі пераканаўчыя казыры. Але, як сцвярджаў вязень, намеры кіраўніцтва “ЗД” і яго асабістыя матывы былі невядомы польскім спецслужбам. Адбылося выгаднае супадзенне інтарэсаў. Беларускі бок прагнуў таго ж самага — дакументальных сведчанняў парушэння Польшчай Рыскай дамовы 1921 года. Для выкрыцця планаў няшчырай суседкі Грач быў проста падарункам. Аперацыя “Пералёт” такім чынам завяршылася. У выніку закручастых інтрыг ахвярнай авечкай застаўся Уладзімір Ксяневіч, “пешка”, як ён сам прызнаў, у гэтай гульні.

## Пастка

Як вынікае з аператыўных матэрыялаў, на савецкім баку Грача

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

чакалі. У той кастрычніцкі дзень памежнік Заслаўскай заставы Гарынцаў,назіраючы з вышкі за хутарамі за мяжой, заўважыў сігнал закардоннага разведчыка Станіслава (той самы кур’ер, які трымаў сувязь паміж асабістамі і Дзергачом). Узабраўшыся на дах дамка, ён рабіў выгляд, што чысціць комін. Калі жэрдка з мятлою ў сажы была павернута ў бок Верамеек, а Станіслаў, скончыўшы працу, двойчы праводзіў правай рукой па лбе, быццам выціраючы пот, і чухаў за вухам, гэта азначала, што мяркуецца пераход лазутчыка праз мяжу. Начальнік заставы, атрымаўшы даклад пільнага памежніка, заспяшаўся на сустрэчу з рэзідэнтам. Такія сустрэчы са Станіславам мелі рэгулярны характар. У ноч з 7-га на 8-е адпаведна былі размеркаваны дазоры, і Грач ледзь не наступіў на ляжачага пад кустом Кузьму Гарынцава, прабіраючыся праз мяжу. Але перабежчык быў упэўнены, што ніхто яго не



Чэкісты

заўважыў. Для лепшага ўяўлення абставін пераходу неабходна ўзгадаць, што Грач перад рашучым крокам спыніўся ў мясцовага паліцыянта, а яго брат, супрацоўнік “двуйкі”, дапамог зялёнадубцу трапіць на бальшавіцкі бок мяжы. Магчыма, яго звалі Станіслаў. Па адной простай прычыне — на польскім баку былі толькі два дамы.

Зараз і спецслужбы прагнуць вядомасці і народнай увагі. Пра сваё слаўнае мінулае пішуць ахвотна, раскрываюць сакрэтныя архівы, нават знешняй выведкі. Спалучыўшы рознага кшталту крыніцы, размеркаваўшы вылаўленыя факты ў адпаведным часе і належнай прасторы, можна ўдала насяліць іх рэальнымі персанажамі, нягледзячы на тое, што прафесія героеў патрабавала тайны. Узрастаючая дыстанцыя часу таксама паспрыяла іх адкрыццю. 80-100-гадовым чэкістам дазволілі ўспомніць мінулае. Іх гісторыі часцяком адбываліся на беларускіх землях з удзелам нашых герояў.

У выніку старанных пошукаў знайшлося прозвішча неаднаразова згаданага Станіслава. Польскі камуніст Станіслаў Мартынавіч Глінскі, пачуханае вуха якога мела шмат для каго літаральна сакральны сэнс, з верасня 1920-га працаваў агентам Асобага аддзела 16-й чырвонай арміі. На Заходнім фронце яна спецыялізавалася на рэпрэсіях супраць мясцовай узброенай апазіцыі. Асобы аддзел займаўся барацьбой з контррэвалюцыяй і шпіянажам, арганізоўваў агентурныя сеткі ў замежжы.

Паходжаннем з сям’і рабочага-чыгуначніка Варшавы, равеснік Ксяневіча, ён бездакорна ўдаваў з сябе тутэйшага, нягледзячы на тое, што спачатку бальшавіцкае падполле, а потым служба ў ЧК (Усерасійскай надзвычайнай камісіі) прымусіла да частых зменаў месца жыхарства: Іркуцк, Рыга, Сібірская магісталь, Урал і зноў Захад — Мінск (амаль шлях Грача, толькі ў адваротным парадку). Роля гэтага чалавека ў гісторыі зялёнадубцаў не выклікала больш пытанняў пасля знаёмства са спісам яго прафесійных дасягненняў. 29 жніўня 1921 года С. Глінскі быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага сцяга за № 49. Улетку гэтага года была знішчана мінская арганізацыя “ЗД” і іх саюзнікі-савінкаўцы падчас падрыхтоўкі буйнамаштабнага антысавецкага паўстання ў Мінску, не ў апошнюю чаргу дзякуючы агентурнай дзейнасці будучага ардэнаносца. Ён сустракаўся напярэдадні ў ваколіцах Слуцка з прадстаўніком генерала Булак-Балаховіча і абмяркоўваў з ім планы арганізацыі паўстання і захопу Мінска. Ахвярамі бліскучай шпіёнскай працы сталі каля паўсотні чалавек, асуджаных за тэрарызм і антысавецкую дзейнасць. У пастку, падрыхтаваную Глінскім, патрапілі і дзве дзяўчыны, па водгуках паплечнікаў, выдатныя разведчыцы “ЗД” — Ганна Доўгерт і Ганна Бруевіч. Безаглядны давер да яго прывёў да непапраўнай трагедыі. Яны прымалі яго за свайго, ведалі, як чалавека Барыса Савінкава, а не як начальніка Асобага аддзялення пры Беларускай ЧК, кім ён быў на самой справе.

Беларусь была тэрыторыяй, дзе розныя сілы актыўна гулялі ў аперацыю “Трэст”. Гэта знакамітая містыфікацыя была прыдумана былым шэфам Асобага корпуса жандараў Уладзімірам Джункоўскім. Старшыня ВЧК Ф. Дзяржынскі пераканаў яго стаць кансультантам яго службы.

●Ніна Стужынская

*Працяг у наступным нумары*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Працяг, пачатак у № 5-8,10, 2019 г.*




У траўні 1917 года “Kriegszeitung von Baranowitschi” (“Ваенная газета ў Баранавічах”) апублікавала некалькі зацемак пра жыццё Слоніма, напісаныя ўнцер-афіцэрам Вальтэрам Фэстам. Пераклад двух з іх прапануем увазе чытачоў “СК”. У арыгінале загалоўкі былі аднолькавыя — “Слонім”.

У першай публікацыі гаворка ідзе пра барацьбу немцаў з ледзянымі заторамі на Шчары дзеля ратавання мастоў, у іншай — пра прыезд у наш горад нямецкага тэатра з Лодзі. Маем цікавае апісанне слонімскага тэатра на Параднай вуліцы (гэты будынак у ніжняй частцы цяперашняй Першамайскай вуліцы не захаваўся). З апісання вынікае, што на час пастаноўкі, на якой быў аншлаг, каля будынка дзяжурылі пажарныя. Фэст сведчыць, што ў Слоніме былі перабоі з электрычнасцю. Яшчэ адзін цікавы факт — спектаклі адбываліся і пад адкрытым небам.

## Як немцы ўтаймоўвалі Шчару

Ужо другі раз, з дапамогай нямецкіх салдат і нашых сродкаў завяршылася утаймаванне Шчары. Спакойна і павольна цячэ рака сярод сваіх нізкіх берагоў. Аднак, вясной, калі растае снег і крыгі плывуць па ёй, становіцца яна дзікай, бурнай і небяспечнай. Тады трэба ратаваць масты. Пры будаўніцтве мастоў рускія не прадугледзелі сур’ёзную абарону ад вясновага лёду. Некалькі дзён нам даводзілася падрываць ледзяныя заторы. Грукатала так, як быццам горад зноў апынуўся на лініі фронту. Нарэшце рака ачысцілася ад лёду, вакол — толькі чыстая вада. Прыйшла вясна 1917 года.

Ф.

*Kriegszeitung von Baranowitschi, 1917, 9 траўня, № 37*

## Спектакль пры святле паходняў

З 16-га да 19 траўня ў горадзе гасцяваў нямецкі тэатр з Лодзі (дырэктар — Вальтэр Васерман). Тэатр даставіў вялікае задавальненне салдатам са Слоніма і наваколля. Прадстаўленні ставіліся ў будынку былога рускага Народнага тэатра, больш падобнага на простую гімнастычную залу. Усе глядзельныя месцы размяшчаліся тут на адным узроўні, з-за чаго, не адусюль была добра бачная сцэна. На за-



*Артысты нямецкага тэатра ў Лодзі разам з дырэктарам Вальтэрам Васерманам. Фота: akpool.de*

слоне яшчэ заставаліся нейкія рускія надпісы, дашчаная столь была выфарбавана белай фарбай. Пастаноўка суправаджалася “дробнымі” няўвязкамі — часам знікала электрычнае асвятленне. Тады толькі паходні Слонімскай добраахвотнай пажарнай каманды, якая стаяла звонку будынка, асвятлялі цемру ў зале праз вокны... Гэтую міжвольную паўзу гледачы запаўнялі народнымі і вайсковымі песнямі да таго часу, пакуль не з’яўлялася святло зноў і тэатральная п’еса не працягвалася далей. Так было два разы. Салдаты, якія падтрымліваюцца артыстамі са сцэны, з натхненнем і добрым настроем зноў спявалі народныя песні. На сцэне выконваўся фарс “Як мне прывязаць мужа?”. Гульня акцёраў заслужыла доўгія апладысменты. Некалькі дзён аперэты ішлі з велізарным поспехам. Іншыя п’есы: “Салдат Мары” і “Прыдворны барон” суправаджаліся музыкай слонімскага гарнізоннага аркестра. У апошні вечар госці развіталіся з гледачамі п’есай “Блудная дачка”. Прадстаўленне адбывалася пад адкрытым небам. Удзячныя салдаты доўга не адпускалі артыстаў сваімі авацыямі. Усе квіткі да адзінага на прадстаўленні былі распрададзеныя. Таксама былі распрададзеныя ўсе квіткі, але ўжо па заніжанай цане, на дадатковы спектакль “Іспанская мушка”.

В. Фэст

*Kriegszeitung von Baranowitschi, 1917, 23 траўня, № 41*

Пераклаў ●Ігар Падгарадзецкі



ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Пра трываласць беларускай рэлігійнай традыцыі

*Працяг, пачатак у № 10, 2019*

Праўніяцкага епіскапа Іяакіма Цехановіча (ці Цеханавецкага) вядома не шмат. Галоўнай крыніцай інфармацыі пра яго з'яўляецца рукапісны тэкст, напісаны ў выглядзе некралога на 4 старонках.[1] Гэты тэкст (ці яго копія) раней знаходзіўся ў адным з рукапісных зборнікаў бібліятэкі гісторыка Міхаіла Каяловіча. Зборнік уключаў у сябе каштоўныя для навукі дадзеныя па гісторыі уніяцкай царквы. У XIX стагоддзі гэтымі матэрыяламі карысталіся гісторыкі Шчарбіцкі, Крачкоўскі і Хрусцевіч.[2]

Іяакім, у свеце Ян Язафат Цехановіч, паходзіў з багатага шляхецкага роду Цехановічаў, якія валодалі вялікімі маёнткамі ў Пінскім старостве. Бацька Іяакіма, Станіслаў Цехановіч — пінскі падкаморы, маці Канстанцыя з Мацкевічаў. Ян Язафат меў роднага брата Антона.[3] Хлопчык рана застаўся без бацькоў пад апекай сваёй бабулі, пінскай падкамарыны Кацярыны Пясецкай з Гедройцаў[4], жанчыны суровай і славалюбівай.

Магчыма, з-за суровага выхавання з боку бабулі, а можа з-за прыроднай схільнасці да самотнага, сузіральнага жыцця, Іяакім рана пачаў думаць аб лёсе манаха і вырашыў уступіць у базыльянскі ордэн: *"З інспірацыі Святога духа меў жаданне і схільнасць да таго, каб уступіць не ў любы, а толькі ў наш закон. З-за гэтага бабуля... была вельмі незадаволена і на пачатку моцна яго абражала і не слухала яго размовы... Але ён не дазволіў сябе адгаварыць і не адступіў перад яе воляй і ўступіў у закон. Прыняў хабіт у навіцыяце і пачаў жыць манаскім жыццём".*[5]

Без ведама і згоды бабулі, шаснаццацігадовы юнак пакінуў родны дом і стаў навіцыям Быценскага манастыра. Бабуля, як апякунка, даведаўшыся, дзе знаходзіцца яе ўнук, запатрабавала ад ордэна аддаць яго. Зразумела, што базыльяне выканалі законнае патрабаванне апякункі. Але разам з Іяакімам накіравалі да бабулі Андрыяна Фабрыцыя, высокаадукаванага чалавека (theology rzymski), які павінен быў правесці перамовы з строгай апякункай. На пачатку пінская падкамарына нават не жадала чуць пра манаства ўнука, а загадала зняць з яго манаскі хабіт і апрануць у кароткую мужыцкую світку. Яна выкарыстала ўсе сродкі, каб унук не стаў манахам: *"Яна трымала яго ў роспачы пры сабе, рознымі спосабамі гідзіла яго, дапускала розныя глумленні і насмешкі. Гэта ўсё ён мусіў самотна зносіць, бо яго ўсе пакінулі. Даходзіла нават да таго, што рабіліся яму розныя спакусы: да маладога хлопца прысылаліся дваровыя панны, каб жартамі і смехам адвадзіць ад пабожнага жыцця, чынілі яму пабудкі ці рабілі раскошныя святы. Але калі гэта ўсё не дапамагло, бабулі прыйшлося сцішыць свае намеры, бо не магла яна перамагчы".*[6]


be.wikipedia.org

Тут трэба зрабіць адступленне і успомніць лёс св. Тамаша Аквінскага, да якога таксама, каб адвадзіць ад манаскага жыцця, сваякі накіроўвалі дзяўчат *"лёгкіх паводзін".* Маладога Тамаша, які таксама паходзіў з вельмі шляхетнай сям'і і хацеў стаць манахам, *"браты злавілі... разарвалі жабрацкае адзенне, звязалі і замкнулі ў вежы, як вар'ята… падаслалі да яго размаляваную блудніцу, жадаючы застаць яго знянацку і спакусіць ці хаця б увесці ў спакусу".*[7] Вось такія паралелі.


св. Тамаш Аквінскі

Але, як заўважыў ананімны аўтар некралога па Іякіму Цехановічу: *"Ён нудзіўся без жыцця ў законе і нецікавымі былі святы, якія для яго рабіла бабуля. Таму яна вярнула яму хабіт закона, які меў для яго вельмі вялікі і глыбокі сэнс, бабуля не змагла павярнуць яго ў свой бок і страціла надзею пераканаць".*[8]

Не маючы яшчэ і поўных 18 гадоў, ён прымае пострыг у Жыровіцкім манастыры. Перад гэтым Цехановіч робіць запіс на 40 000 злотых на карысць базыльянскага ордэна *"для Славы Божай і для распаўсюду уніі"* — грошы пайшлі на атрыманне базыльянамі адукацыі. Сума была забяспечана на палове фамільных маёнткаў Цехановічаў — Драгічыне, Жубчыцах (абодва ў Пінскім павеве) і Слохах (застаўная маёмасць ў Падляшшы).[9] У рукапісе-некралогу чытаем: *"Гэты запіс ухваліў і прызнаў Трыбунал ВКЛ. Дамовіўшыся пра пажыццёвыя умовы, ён дазволіў пасля сваёй смерці закону… трымаць яго маёмасць ажно покуль запісаная сума не будзе выплачана".*[10]

Дараванне вялікай сумы грошай выклікала незадавальненне ў сям'і будучага епіскапа. Нам вядома, што 4 кастрычніка 1705 года протаархімандрыт закона выступіў з пратэстацыяй супраць іску пінскай падкамарыны (бабулі Іякіма) *"аб гвалтоўнай забароне на ўступленне ў наш закон а. Язафата Цехановіча, падкаморыча пінскага і надання 40 тысяч зл*[отых] *закону".*[11]

Тым не менш будучы епіскап дабіўся свайго і *"пасля заканчэння няволі ў доме, з-за марнасці для яго здрадлівых пастак гэтага свету, зноў Богу свайму хоча служыць і едзе з айцом Фабрыцыям у Быцень, каб самавіта і з усёй руплівасцю зноў вучыцца ў навіцыяце... ЯВ епіскап*[12] *у 1706 годзе аднавіў яго ў законе".*[13]

Іякім нейкі час вучыцца ў езуіцкай школе пры Мінскім манастыры *"потым быў адтуль хутка ўзяты ў Жыровічы і высвечаны ў дыяканы, і толькі тады пасмеў паехаць да бабулі. Яна ўбачыла яго як законніка і дыякана, і адчыніла яму сваё сэрца і ад таго часу, забыўшы ўсё ранейшае, зноў палюбіла ўнука. Яе сэрца радавалася, яна атрымала вялікую духоўную ўцеху і супакоілася, калі ўбачыла каля алтара... яго разам з епіскапам падчас рочнай службы".*[14]

У 1709 годзе на Бельскай кангрэгацыі базыльянскі закон прымае 40 000 злотых ад Цехановіча "на школы".[15] Пасля атрымання сану дыякана, Іякім паступае ў Віленскі папскі алюмінат вывучаць філасофію. У Вільні падкаморыч ахвяруе вялікую суму Св.-Троіцкаму манастыру, і на гэтыя грошы базыльяне робяць у манастырскай царкве алтар св. Язафата Кунцэвіча: *"У 1710 г. на грошы, ахвяраваныя а. Іякімам Цехановічам, які ў той час вучыўся ў Віленскім алюмінаце, зроблены алтар Св. Язафату ва ўсім падобны на алтар Божай Маці".*[16]

Іякім Цехановіч два года вывучаў цыкл логікі і фізікі[17], але *"хутка зразумеў, што філасофія яму цяжкая для разумення".*[18] Таму пакінуў алюмінат і вярнуўся ў Жыровічы, дзе атрымаў сан іераманаха. На Віленскай генеральнай базыльянскай кангрэгацыі (у 1713 годзе) ён прызначаецца суперыёрам Холмскага манастыра. Недалёка ад яго знаходзіліся маёнткі пінскага падкаморыча. Іякім кіруе манастыром "добра і пабожна" і, хоць не шукае "гонару і ўлады", атрымлівае ад пінскага епіскапа Парфірыя Кульчыцкага годнасць пінскага афіцыяла[19], але і пасля гэтага застаецца ўзорам манаскага

# Пра трываласць беларускай рэлігійнай традыцыі

жыцця для братоў закона.[20]

16 чэрвеня 1716 года памірае пінскі і тураўскі епіскап Парфірый Кульчыцкі. Трэба заўважыць, што епіскап быў вельмі адукаваным чалавекам, "perfect" у славянскіх мовах, у латыні і французскай мовах, вёў вельмі простае, беднае і багалюбівае жыццё ў невялікім фальварку Храніў пад Пінскам.

Цехановіч вытрымлівае канкурэнцыю за епіскапскую кафедру з Лаўрэнціем Сакалінскім (ён потым стаў Смаленскім архіепіскапам) і Максіміліянам Вятрынскім (у 1717 годзе ён стаў протаархімандрытам базыльянскага ордэна, але ў 1719-м страціў гэтую пасаду, пасля чаго збег за мяжу і ў Швейцарыі прыняў кальвінізм). У 1717 годзе ў Супраслі Цехановіча хіратаніравалі ў епіскапа Пінскага і Тураўскага. Але *"дарага каштавала нябожчыку гэта епіскапія, нямала за яе выдаткавана тысяч, нямала засталося запазычанасцяў, якімі былі абцяжараны яго маёнткі".* Потым стрыечныя браты Цехановіча праз суд атрымалі ад мітрапаліта Льва Кішкі 50 000 злотых, якія той узяў у Іякіма за пінскую дыяцэзію.[21] Заўважу, што ў той час у Еўропе гэтак рабілася паўсюдна і плата за пасаду была нормай.

Епіскап Іякім 15 верасня 1717-га напісаў ліст літоўскаму канцлеру Каралю Станіславу Радзівілу з прапановай аб вызваленні духавенства яго епархіі ад абавязку ваеннай кантрыбуцыі.

Ананімны аўтар некралога піша, што Цехановіч меў слабое здароўе, да якога потым "дадавалася слабасць і немач, ён часта хварэў. Брат... Антоні Цехановіч, з якім яны ад адной




маці паходзілі, у тым жа 1719 годзе неспадзявана пайшоў з гэтага свету, апярэдзіўшы свайго брата на 7 ці 8 тыдняў".[22]

Да таго ж, стрыечныя браты Геранім і Тамаш Цехановічы, нягледзячы на бацькоўскі падзел маёмасці, захапілі яго маёнткі: *"Захапіўшы двор, нерухомую маёмасць з ураджаем, быдлам і з усімі гаспадарчымі прыладамі, яны сваіх жонак у гэты двор прывезлі".*[23]

Епіскап Іякім не жадаў абвастрэння сітуацыі і планаваў дзейнічаць толькі праз суд. Смерць роднага брата, паводзіны стрыечных братоў, якія захапілі маёнткі, падарвалі слабое ад прыроды здароўе епіскапа. У поўнай прытомнасці, прычасціўшыся, ціха і мірна Іякім Цехановіч памёр 29 красавіка 1819 года ў сваім невялічкім маёнтку каля Пінска. Яго парэшткі былі перавезены ў Жыровічы і "з усей пабожнасцю..." пахаваны ў фамільным склепе.[24]

Пасля смерці епіскапа стрыечныя браты судзіліся з базыльянамі аб ахвяраваных закону 40 000 злотых, і ў выніку з маёнткаў, якія адышлі ім пасля смерці епіскапа Іякіма, выплацілі толькі 18 000 злотых.[25]

Іякім вёў строгае і дбайнае жыццё. І таму не дзіўна, што пасля яго смерці пачаў развівацца культ епіскапа. Развіццё культу было прыпынена скасаваннем уніі, але нават і ў праваслаўнай царкве існавалі перадумовы для яго зараджэння і ўзмацнення. Але культ Іякіма як святога канчаткова мог бы сфармавацца толькі ў больш спрыяльных гістарычных абставінах — у сваёй царкве. Тым не менш гэткае доўгае рэха памяці пра грэка-каталіцкага епіскапа выклікае вялікую цікаўнасць да справы развіцця культу святасці ў народнай свядомасці і да асобы самога епіскапа.

●Леанід Лаўрэш,
г. Ліда

Аўтар удзячны выбітнаму беларускаму гісторыку Дзянісу Лісейчыкаву за дапамогу падчас працы над гэтым артыкулам.

*[1] Санкт-Пецярбургскі інстытут гісторыі Расійскай акадэміі навук (СПб ІГ РАН), ф. 52, воп. 1, спр. 324.*

*[2] Диковский Н. Іоаким Цеханович, епископ Пинский и Туровский (1717-1719) // Литовские епархиальные ведомости, 1893, №39. С. 326-327.*

*[3] Акты Виленской археографической комиссіи. Т. XI. — Вильна, 1880. С. 364.*

*[4] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 10. — Вильна, 1874. С. 297.*

*[5] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 35.*

*[6] Тамсама.*

# Флігелі пры званіцы ў Жыровічах



На працягу лета-восені 2019-га Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры дамагалася адмены планаў дэмантаваць бакавыя флігелі пры званіцы ў Жыровічах і ўзвесці прыбудову да Успенскага сабора. Адзначалася, што яны не адпавядаюць *"не толькі прававым нормам, навукова-абгрунтаванаму падыходу, але нават і здароваму сэнсу"*. Звароты накіроўваліся і ў Гродзенскі аблвыканкам, і ў Адміністрацыю прэзідэнта. У канцы кастрычніка таварыства паведаміла, што *"праблема Жыровіцкага манастыра вырашана"*.* Улады прынялі рашэнне аб рэстаўрацыі флігеляў, пабудаваных у 1820-я гады (па іншай версіі, нават раней; сама званіца была ўзведзена да 1640-х гадоў). Ніякай прыбудовы да Успенскага сабора не будзе.

*"Перамога Закона, перамога навукова-абгрунтаванага падыходу да помніка",* — інфармуе таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Пры гэтым у Слонімскім райвыканкаме Радыё Свабода сказалі, што абмеркаванне пытання працягваецца.**

**Праблема Жыровічскага манастыра вырашана // 2019, 29 кастрычніка; http://pomniki.budzma.org/news/prablyema-zhyrovichskaha-manastyra-vyrashana*

*** Карней І. Улады пайшлі на саступкі: прыбудовы да званіцы ў Жыровічах вырашана пакінуць // 2019, 30 кастрычніка; https://www.svaboda.org/a/30244136.html*

# Пра трываласць беларускай рэлігійнай традыцыі

*Працяг, пачатак на ст. 12-14*

*[7] Честертон Г. Вечный человек. — СПб., 2004. С. 335.*

*[8] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 35 адв.*

*[9] Дарственная запись Пинского подкоморича Иосафата Цехановича на школу при Жировицком базильянском монастыре, 20 августа 1705 г. // Акты Виленской археографической комиссіи. Т. XI. — Вильна, 1880. С. 364-366; Запись данная Яном Цехановичем Виленскому Св.-Троицкому монастырю на 40 т. зл., 20 августа 1705 г. // Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 10. — Вильна, 1874. С. 297-299.*

*[10] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 35 адв.*

*[11] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 10. — Вильна, 1874. С. 216.*

*[12] Пінскі і тураўскі епіскап у 1703–1716 гадах Парфірый Кульчыцкі.*

*[13] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 35 адв.*

*[14] Тамсама.*

*[15] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 12. — Вильна, 1900. С. 158.*

*[16] Материалы для истории православных и униатских монастырей в Западной России. Отрывки из дневника Виленского св. Троицкого монастыря с 1671 па 1755 гг. // Литовские епархиальные ведомости, 1868, № 20. С. 893.*

*[17] Wereda D. Biskupi unickiej metropolii kijowskiej w XVIII wieku. — Siedlce-Lublin, 2013. S. 44.*

*[18] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 36.*

*[19] Афіцыял — святар высокага рангу, якому епіскап даручаў ажыццяўляць сваю судовую ўладу.*

*[20] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 36.*

*[21] Іоаким Цеханович, епископ Пинский и Туровский… С. 327-328.*

*[22] СПб ІГ РАН, ф. 52, воп. 1, спр. 324, арк. 37.*

*[23] Тамсама.*

*[24] Тамсама.*

*[25] Іоаким Цеханович, епископ Пинский и Туровский… С. 328.*

# Як паны Гарабурда і Пачобут-Адланіцкі тры дні піравалі



У "Дыярыушы…" ашмянскага стольніка Яна Уладзіслава Пачобута-Адланіцкага* згадваюцца яго паездкі на Слонімшчыну зімой 1668 года. Шляхціч скончыў вайсковую службу і змог нарэшце заняцца ўладкаваннем асабістага жыцця. Зімой 1668-га, за некалькі тыдняў да шлюбу з пінскай падсталянкай Рахель Юдытай Гадэбскай, Пачобут-Адланіцкі прыехаў да прыяцеля ў Слонім. Вось што ён пісаў:

*"28 дня [студзеня 1668 года] раз'ехаўся я з родным маім братам. Я паехаў у Жыровічы, а брат пасяшаўся назад дадому…*

*Месяца лютага 1 дня, пабыўшы ў аднаго добрага прыяцеля [у Слоніме?], прыехаў я ў Жыровічы. Адсюль назаўтра, пасля набажэнства і грамнічнага сейміка**, вярнуўся на ноч да Слоніма. Тут я добра тры дні піраваў з ягамосцем панам Гарабурдам***, ад якога і даведаўся пра вяртанне яемосці пані пінскай падсталянкі ў Купішкі. Таму, нарабіўшы шуму са стрэльбаў, якіх на той час было ў санях даволі, і за здароўе выпіўшы, выехаў я са Слоніма ў Навагрудак".*****

Для таго часу гэта была звычаная справа для шляхціча: пасля наведвання Божага храма некалькі дзён весела бавіць час, ні ў чым сабе не адмаўляць. А пасля зноў на набажэнства, каб замаліць старыя грахі ў прадчуванні новых…

Да пана Гарабурды *"у край слонімскі"* Ян Уладзіслаў Пачобут-Адланіцкі вернецца 19 лютага 1668-га, спыніцца ў яго маёнтку ў Байках. Госць зноў добра адпачыў (праўда, ужо не

З АРХІВАЎ

# Спалены харчовы склад у Слоніме ў 1920-м



Гэты здымак адшукаўся ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў. У апісанні пазначана, што ён зроблены ў Слоніме ў 1920 годзе. Невядомы фатограф зняў харчовы склад, *"спалены адступаючымі польскімі войскамі"*. Палякі панавалі на Слонімшчыне з сакавіка 1919 года, а адступілі пад ціскам Чырвонай Арміі, якая рвалася да Варшавы, у ліпені 1920-га. Відаць, тады яны і спалілі склад, паколькі проста не паспявалі вывезці запасы харчавання. Як піша ў сваіх успамінах былая працаўніца слонімскага рэўкама Надзея Гайдук, галадалі і чырвонаармейцы, і рэўкамаўцы, многія мясцовыя жыхары непрыязна іх сустрэлі і схавалі прадукты.*

Краязнаўца і журналіст Ігар Пракоф'еў мяркуе, што гэты склад знаходзіўся недалёка ад чыгуначнага вакзала. На карысць гэтай версіі сведчаць і рэйкі, якія бачым каля будынка на фота. *"Падобныя склады дагэтуль знаходзяцца блізь вуліцы Парахавой,* — кажа Пракоф'еў. — *Там заўсёды былі вайсковыя склады: пры цары, пры палякаў, пры фашыстах. Вузкакалейку разабралі толькі ў пачатку 1980-х".*

●СЁ

**Гайдук Н. Два месяцы на службе ў савецкай улады // Слонімскі край, 2019, № 1(35). Студзень. С. 14.*

# Як паны Гарабурда і Пачобут-Адланіцкі тры дні піравалі

*Працяг, пачатак на ст. 16*

стаў апісваць дэталі) і праз два дні з'ехаў. Па дарозе ў п'янай чэлядзі шляхціча здарыўся канфлікт з драгунамі Казіміра Яна Сапегі, але гэта ўжо іншая гісторыя.

Пачобут-Адланіцкі завітаў на Слонімшчыну праз сем з лішкам гадоў пасля яе вызвалення ад войскаў маскавітаў. Вайна ўжо скончылася, а раны, якія яна пакінула, загойваліся.

●Сяргей Ёрш

**Запіскі і дыярыуш Яна Уладзіслава Пачобута-Адланіцкага [Пераклад з польскай, прадмова і каментар В. Таранеўскага] // Полымя, 2001, № 10. С. 195-246.*

***Грамнічныя ці трыбунальскія павятовыя сеймікі штогод збіраліся 2 лютага на свята Маці Божай Грамнічнай. На іх шляхта выбірала суддзяў у склад Трыбунала Вялікага княства Літоўскага.*

****Відаць, маецца на ўвазе шляхціч Міхал Гарабурда, які жыў на Замкавай вуліцы (цяпер — Камсамольская) у Слоніме.*

*****Запіскі... С. 198.*

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім



*Працяг, пачатак у № 8-10, 2019*

Чым мацней нашу школу ахопліваў рэвалюцыйны настрой, тым больш развівалася фіскальства* і шпіёнства. На класных сценах і на платах вучэльні вельмі часта можна было бачыць надпісы алоўкам ці крэйдай: “Юшкевіч — сацыял-дэмакрат”, “Жукоўскі — эсэравец”, “Камянецкі — сіяніст”, “Батура — сацыяліст”, “Асакоўскі — бундавец” і г. д.

У гэты перыяд у гарадах і мястэчках вялізную арганізуючую і рэвалюцыянізуючую ролю адыгралі рабочыя “біржы”. Пад біржамі разумелася нейкая пэўная вуліца, бульвар, гарадскі сквер ці набярэжная, дзе штодня пасля працы збіраліся рабочыя, інтэлігенты, сябры прафесійных саюзаў і рэвалюцыйных партый. Там абмяркоўваліся і вырашаліся ўсе набалелыя пытанні дня. Біржа ўяўляла сабой своеасаблівы вулічны клуб. Там сустракаліся сябры розных сацыялістычных партый, там можна было прызначыць любую канспірацыйную сустрэчу, перадаць і атрымаць літаратуру, пракламацыі і зброю.

На біржы вялася агітацыя, чыталіся газеты, абмяркоўваліся палітычныя навіны, адбываліся дыскусіі і нярэдка, ледзь не на вачах паліцыі, ладзіліся лятучыя мітынгі. Там жа абмяркоўваліся і дзелавыя пытанні: пра страйкі, стачкі, байкоты, абструкцыі і дэманстрацыі. Я не ведаю ніводнага правалу ці шпіёнскага сачэння на біржы. Біржа заўсёды кіпучая, дзелавітая і шумная, як пчаліны вулей вясной. Твары маладыя, радасныя, адухоўленыя, поўныя баявой гатоўнасці і самаахвярнасці. Біржа добра ведала “сваіх” у твар, умела вызначаць па адным поглядзе “чужых” г. зн. старонніх асоб, чужых для рэвалюцыі. З’яўленне новага чалавека станавілася імгненна вядомае, і праз дзесяць хвілін ужо ведалі “свой” вы ці “чужы”.

Біржа была адначасова ўніверсітэтам, кузняй і мастацкай майстэрняй, дзе выкоўваліся рэвалюцыйныя батальёны, якім сацыялістычныя партыі надавалі тое ці іншае мастацкае адценне і аблічча. Словам, біржа явачным парадкам легалізавалася і крок за крокам заваёўвала вуліцу, а з ёй і грамадзянскія правы. І жыхары горада глядзелі на біржу і расцэньвалі яе, як і ўсялякую іншую грамадскую ўстанову. Толькі глыбокая рэакцыя ў канцы 1907 года загнала рэвалюцыйную біржу ў падполле.

Была такая біржа і ў Слоніме. Летам яна знаходзілася на набярэжнай Агінскага канала, зімой і восенню на адной з цэнтральных вуліц горада. На слонімскай біржы амаль у кожнай групоўкі быў свой кіёск, які гандляваў сельтэрскай вадой, папіросамі і слодычамі; там можна было атрымаць патрэбную даведку, прызначыць спатканне і г. д. Я памятаю, што такія кіёскі былі ў максімалістаў і бундаўцаў.

Вясной штодня пасля ўрокаў мы, памяняўшы свае вучнёўскія курткі на сінія ці чырвоныя кашулі**, якія мы насілі з гонарам, спяшаліся на біржу і бавілі час там да глыбокай ночы. Нярэдка, сабраўшыся вялізным натоўпам, мы сядалі ў лодкі, адплывалі далей ад берага і, прычаліўшы адна да другой, ладзілі сапраўдныя мітынгі і масоўкі. У горад вярталіся з песнямі, але ніводзін паліцэйскі не паказваўся сюды, бо для яго гэта была забароненая рыса.

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Айзік Свяцiцкі

У 1886 годзе ў Слоніме нарадзіўся Айзік Абрамавіч Свяцiцкі, дзеяч сацыял-дэмакратычнага руху. З 1905 года ён быў сябрам яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд (у некаторых крыніцах яго называюць нават сябрам ЦК гэтай партыі). У 1912-м за нелегальную працу Свяціцкага выслалі з Беларусі ў Расію. У высылцы знаходзіўся да 1914-га. У дакументах згадваецца, што ў слонімца была сярэдняя адукацыя, сябе ён называў эканамістам. Падчас рэвалюцыйных падзей 1917 года і грамадзянскай вайны Айзік Свяціцкі быў у складзе Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (меншавікоў). За гэта і за свае палітычныя погляды ў 1923 годзе бальшавіцкай уладай адпраўлены ў высылку. У 1927-1930 гадах адбываў высылку ў Саратаве.



Помнік у Омску

У 1930-м чэкісты склалі крымінальную справу супраць меншавікоў, якія былі ў высылцы ў гэтым горадзе. Нібыта, з 1927 года 15 чалавек, а сярод іх і Свяціцкі, арганізоўвалі канспірацыйныя сустрэчы, на якіх абмяркоўвалі палітычныя пытанні, выказвалі спадзяванні на хуткі канец улады бальшавікоў і збіраліся ачоліць "контр-рэвалюцыйны рух", падтрымлівалі сувязь з іншымі гарадамі. Слонімец трапіў за краты 16 верасня 1930 года. Суд адбыўся вясной 1931-га. Які атрымаў прысуд Айзік Свяціцкі, невядома. Верагодна, была чарговая высылка, на гэты раз у Сібір.

У 1930-я гады Свяціцкі жыў у Табольску, працаваў у арганізацыі па нарыхтоўцы збожжа. 8 лютага 1937-га слонімца арыштавалі. 5 жніўня ён атрымаў расстрэльны прысуд, а 12 жніўня быў расстраляны і пахаваны ў Омску. Айзіка Свяціцкага рэабілітавалі ў студзені 1989 года.

●Генадзь Гурскі

# Рэвалюцыйны Слонім

*Працяг, пачатак на ст. 18*

Нарэшце прыйшла і рэвалюцыя, самая сапраўдная, жывая, бунтуючая, якая клікала на вуліцу. Для нас, навучэнцаў, яна не была нечаканай і знянацку нас не заспела. Кастрычніцкія падзеі [1905 года] у Слоніме прайшлі спакойна і бяскроўна ў процівагу іншым гарадам. Слонім жыў звычайным жыццём: шумеў базар, раз'язджалі рамізнікі, па кутах мірна драмалі гарадавыя. У класе заняткі прайшлі як звычайна. Але ўвечары мірная ідылія парушылася.

●А. Левандоўскі

**Стукацтва.*

***Гэта былі "касавароткі", якія мелі разрэз збоку, а не пасярэдзіне, як у звычайных кашуляў.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Слонім, 1918 год

На сайце allegro.pl з'явіліся некалькі старых здымкаў, якія маюць дачыненне да Слоніма. На адным з іх бачым маладых людзей на ганку дома. На адвароце пазначана, што фота зроблена ў нашым горадзе ў 1918 годзе. На жаль, іх імёны і прозвішчы невядомыя. Аўтар здымкаў — Барыс Вайнштэйн. На адвароце аднаго з іх пазначана прозвішча "Навіцкі".





# Кніга пра гісторыю слонімскага футбола

У лістападзе выйшла з друку кніга Аляксандра Захаранкі і Сяргея Чарамісіна *“Футбол Слоніма. Ад каманды завода да прафесійнага клуба. 1969 — 1993 гады”.* Яе прэзентацыя прайшла на стадыёне “Юнацтва” ў перапынку матча “Слоніма-2017” і гомельскага “Лакаматыва”. Аўтары падарылі кнігу ветэранам слонімскага футбола.

Безумоўна, выхад кнігі — гэта падзея. Аўтары не толькі сабралі публікацыі, фотаздымкі, успаміны, але выкарысталі нават архіўныя дакументы. Праца Захаранкі і Чарамісіна — важны ўнёсак у справу вывучэння гісторыі слонімскага футбола. І яны збіраюцца яе працягнуць.

Футбол у Слоніме з’явіўся каля сотні гадоў таму. За гэты час каманды з нашага горада паўдзельнічалі ў спаборніцтвах рознага ўзроўню Польшчы, СССР, а ў апошнія амаль тры дзесяцігоддзі — незалежнай Рэспублікі Беларусь. Слонімскі “Камунальнік” гуляў у эліце беларускага футбола. Спадзяемся, што ў будучыні нашы футбалісты яшчэ парадуюць і гульнёй, і вынікамі.

●СЁ







# 80-годдзе друкарні

У Слоніме адзначылі 80-годдзе друкарні, якая была створана восенню 1939-га. Тады былі аб’яднаны ў дзяржаўную прыватныя друкарні. Аднак гісторыя друкарскай справы ў нашым горадзе налічвае больш за 240 гадоў. Дарэчы, пра гэты факт было згадана на ўрачыстым мерапрыемстве, якое прайшло ў мясцовым тэатры.

●ГГ




“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.